*Беларускі народ бароніць свае законныя правы на чэсныя, справядлівыя выбары, адстойвае сваю чалавечую годнасць.*

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 69 (4527)**

1 верасня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі— чакаем!*

# Народная Воля

**МІНСК, 30 ЖНІЎНЯ 2020 ГОДА**

## Марш Міру і Незалежнасці

У нядзелю 30 жніўня ў цэнтры Мінска прайшоў марш Міру і Незалежнасці. У гэты ж дзень А.Лукашэнку споўнілася 66 гадоў.

Многія тысячы людзей сцягнуліся з самых розных раёнаў Мінска да Палаца Незалежнасці. Па ўсім шляху яны скандзіравалі: "Верым! Можам! Пераможам!", "Саша, сыходзь!", "Новыя выбары!", "Жыве Беларусь!" і гэтак далей.

Палац Незалежнасці быў ачэплены спецтэхнікай і амапаўцамі.

Да ўдзельнікаў акцыі далучыліся сябры штаба Віктара Бабарыкі Марыя Калеснікава, Максім Знак, Лілія Уласава. Марыя Калеснікава падышла да ачаплення сілавікоў, стала прасіць, каб паклікалі іх кіраўнікоў альбо дазволілі прайсці ўнутр для перамоў. Ва ўсім было адмоўлена.

Масавыя пратэстныя акцыі, выкліканыя фальсіфікацыяй вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, прайшлі ў Гродне, Брэсце, Магілёве, Наваполацку, Бабруйску, Салігорску, Баранавічах, Жабінцы і іншых гарадах Беларусі.

На жаль, з-за таго, што звёрстаныя палосы "Народнай Волі" трэба было тэрмінова перадаваць у друкарню, што пад Масквой, не можам паведаміць, чым скончыліся ў нядзелю масавыя пратэстныя акцыі ў Беларусі.




**ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ**

## Будзем разам змагацца за ПРАЎДУ!

Шаноўныя чытачы газеты "Народная Воля"!

За 25 гадоў мы з Вамі зведалі нямала неверагодных выпрабаванняў. На якія толькі рэпрэсіі не ішлі ўлады! Нельга забыць тыя часы, калі нам нахабна забаранілі доступ да беларускіх друкарань, не давалі магчымасці распаўсюджваць газету праз падпіску, рознічныя сеткі. Многія гады "Народная Воля" тыражавалася ў Вільнюсе, Смаленску і даходзіла да Вас, паважаныя сябры, самымі рознымі шляхамі.

І вось у чарговы раз дыктатура гвалціць **СВАБОДУ СЛОВА, ПРАЎДУ**. Вы трымаеце ў руках чацвёрты нумар "Народнай Волі", аддрукаваны ў 30 кіламетрах ад Масквы. Галоўная місія выдання – даносіць незаангажаваную, аб'ектыўную інфармацыю аб тых драматычных, лёсавызначальных падзеях, якія адбываюцца ў роднай Беларусі.

Хочацца спадзявацца, што ў бліжэйшыя дні нам усім удасца прарваць блакаду. Калі не атрымаецца, то па магчымасці і надалей будзем друкаваць газету ў Расіі і распаўсюджваць пры дапамозе вялікай групы валанцёраў. Калі такі варыянт канчаткова абрыне эканоміку рэдакцыі, застанецца адно выйсце: чытаць матэрыялы газеты давядзецца толькі на нашым сайце **nv-online.info**. І сёння можна там зайсці ў раздзел **"Архіў газеты"** і азнаёміцца з усімі артыкуламі апошніх нумароў, выкладзеных у фармаце PDF.

Шкада, вельмі шкада, што не ўсе нашы падпісчыкі, не ўсе чытачы, якія рэгулярна набывалі газету ў шапіках, карыстаюцца інтэрнэтам, могуць заходзіць на наш сайт. Да Вас, шаноўныя, звяртаемся з наступнай просьбай. Дапамагчы Вам могуць родныя, сваякі, суседзі, былыя саслужыўцы, якія ў ладах з сучаснымі камп'ютарнымі тэхналогіямі. Няхай яны, маючы прынтары, раздрукоўваюць Вам як асобныя матэрыялы, так і цэлыя палосы бягучых нумароў "Народнай Волі". Галоўнае, каб Вы не перарывалі сувязь са сваёй любімай газетай.

Вядома ж, можна набываць газету "Народная Воля" ў рэдакцыйным офісе па адрасе: **Мінск, вул.Энгельса, 34А**.

Не выключаем і такі варыянт: калі мы будзем ведаць хатнія адрасы падпісчыкаў, якія не маюць магчымасці чытаць газету праз наш сайт, то пастараемся адпраўляць яе па пошце. Таму, калі ласка, дасылайце свае каардынаты ў рэдакцыю.

Што і казаць, усіх нас напаткалі чарговыя выпрабаванні.

Разам абаронім свае законныя правы, сваю годнасць!

Народу патрэбна **ПРАЎДА**, а не хлусня тых, хто нахабна сфабрыкаваў вынікі галасавання падчас прэзідэнцкіх выбараў!

**ВОСТРЫ ПОГЛЯД**

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

## Хто штурхае беларусаў да грамадзянскай вайны?

Ці звярнулі вы, шаноўныя чытачы, увагу на такую цікавую акалічнасць. На мітынгах у падтрымку Лукашэнкі, якія арганізуюцца па ўсёй краіне, гучаць заклікі: "Не дадзім раскалоць краіну"; "Мы – адзін народ", "Не трэба разгойдваць сітуацыю". І іншае ў тым жа рэчышчы. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў і старшыня аб'яднання "Белая Русь" Генадзь Давыдзька на сустрэчы з выбаршчыкамі сказаў: "Мне сэрца баліць, каб не было расколу ў нашай краіне, а ён ужо ёсць".

Аднак рыторыка дзяржаўных медыя, і асабліва Лукашэнкі, абсалютна процілеглая. Ён не кажа пра адзінства, кансалідацыю, не заклікае да аб'яднання, кампрамісу, паразумення, згоды. Наадварот, ён дэманізуе тых людзей, якія выступаюць супраць яго, аб'яўляе іх ворагамі. Гэта, маўляў, "правакатары", "адмарозкі", "авечкі", "п'яныя", "абкураныя", "наркаманы", "прастытуткі", "пацукі". Ды і яны нібыта кіруюцца з-за мяжы. Паводле яго ацэнак на вуліцах пратэстуюць падлеткі ва ўзросце 16–17 гадоў, якія выйшлі з-пад кантролю бацькоў.

Паводле рыторыкі Лукашэнкі, сапраўднага народу на вуліцах няма. Ён не толькі не хоча размаўляць з тымі, хто вось ужо чацвёрты тыдзень прымае актыўны ўдзел у масавых пратэстах, ён не прызнае іх існавання. Яго выступленні прасякнуты мовай варажнечы, ён распальвае нянавісць да народа. Лукашэнка размаўляе з насельніцтвам мовай грамадзянскай вайны.

Як і можна было чакаць, стаўка робіцца на падтрымку сілавых структур. А.Лукашэнка рэгулярна сустракаецца з іх кіраўніцтвам, а не з апанентамі. Ніякага сцэнарыя вырашэння канфлікту, акрамя сілавога, ён, як мне здаецца, не бачыць.

Вялікае абурэнне грамадства выклікалі збіццё і катванне людзей АМАПам. Аднак Лукашэна ўзяў пад абарону не ахвяр, а тых, хто катаваў. Выступаючы на Мінскім заводзе калёсных цягачоў, ён сказаў: "Цяпер пра тое, што хтосьці кагосьці зьбіў. Цалкам дакладна. Але большасць, пасля таго як разабраліся, на Акрэсціна атрымалі тыя, хто кідаўся на мянтоў». Гэта значыць, паводле ягонай рыторыкі, яго слоў, пацярпелі не мірныя жыхары, а супрацоўнікі АМАПу. Яны – галоўныя ахвяры. І гэтыя ахвяры прагнуць помсты.

Таму Лукашэнка дэманстратыўна ўзнагародзіў больш за 300 супрацоўнікаў міліцыі, частка з якіх ўжывала катаванні да затрыманых грамадзян. Гэта не проста дэманстрацыя, а свядомая палітыка. Ён паказвае, што яму пляваць, што пра яго падумае грамадства. Цяпер Лукашэнку гэта абсалютна не цікава. Узнагарода супрацоўнікам МУС – гэта апраўданне іх дзейнасці, індульгенцыя, карт-бланш на любыя злачынствы супраць беларусаў, сродак максімальна заангажаваць іх у сваю абарону.

Вось яны – новыя героі рэжыму. Героі для ўлады і злачынцы для грамадства. Гэта класічная сітуацыя грамадзянскай вайны. Лукашэнка, я лічу, робіць стаўку на вайну і не хавае гэтага. Наадварот, адкрыта дэманструе. Каб запужаць праціўнікаў.

Гледзячы па ўсім, супрацоўнікаў МУС не хапае дзеля абароны рэжыму. Таму Лукашэнка мабілізуе войска. 23 жніўня ўпершыню ў гісторыі беларускае войска вывелі на вуліцы сталіцы дзеля ўмяшання ва ўнутрыпалітычны канфлікт. Прычым вайскоўцы былі ўзброены аўтаматамі Калашнікава, баявой зброяй.

Заявы міністра абароны Віктара Хрэніна выглядаюць не зусім адэкватнымі. Ён услых разважае пра гатоўнасць арміі да грамадзянскай вайны, кажа пра генацыд, пра магчымую падтрымку пратэстуючых амерыканскімі ваеннымі самалётамі (?). 23 жніўня ён папярэдзіў, што гатовы выкарыстаць войска супраць людзей проста таму, што яны ходзяць з нейкімі няправільнымі сцягамі.

У гэты ж дзень мы ўбачылі Лукашэнку ў бронекамізэльцы з аўтаматам у руках. У такой жа экіпіроўцы быў і ягоны сын Коля. Нам паказалі, што Лукашэнку давялося самому ўзяцца за зброю, узброіць непаўналетняга сына і выйсці, як кажуць, на апошні бой. Бо ён не давярае нікому. Прычым зброя дзеля абароны ад мірных пратэстоўцаў. Усё гэта паказвае, у якім свеце ён жыве.

Тым часам Лукашэнка увесь час усім пагражае. Абяцае разабрацца з тымі, хто супраць яго пратэстуе. Пагражае закрыць тыя прадпрыемствы, на якіх пачнуцца страйкі. Пагражае студэнтам, кажа, што забярэ іх у войска, калі яны будуць удзельнічаць у пратэстным руху.

Тым часам у краіне пачаліся масавыя чысткі. Лукашэнка даручыў міністру адукацыі звольніць усіх настаўнікаў, якія не падтрымліваюць яго. З'явілася распараджэнне Міністэрства спорту перагледзець спіс тых спартсменаў, хто атрымлівае так званыя прэзідэнцкія стыпендыі. Звальняюць заслужаных кіраўнікоў установаў культуры, адукацыі, навукі, медыцыны. Разгромлены Купалаўскі тэатр. Забаронена незалежным газетам друкавацца ў Беларусі і распаўсюджвацца праз "Белпошту" і "Белсаюздрук".

Такім чынам, у Лукашэнкі, акрамя палітычных рэпрэсій, няма ніякай канструктыўнай праграмы дзеля вырашэння палітычнага крызісу ў краіне.

Цікава, што Уладзімір Пуцін у нядаўнім інтэрв'ю казаў пра нейкую канстытуцыйную рэформу ў Беларусі, якая павінна, паводле ягонага меркавання, вывесці Беларусь з сённяшняга тупіка. Маўляў, вось будзе прынята новая Канстытуцыя на рэферэндуме, потым пройдуць прэзідэнцкія і парламенцкія выбары.

З інтэрв'ю Пуціна вынікае, што такія абавязацельствы узяў на сябе Лукашэнка ў адказ на расійскую дапамогу. Сам Лукашэнка пра гэта амаль ніяк не ўзгадвае.

Але нават калі ўявіць, што такі сцэнарый сапраўды акажацца рэалізаваным у Беларусі, то наўрад ці гэта можна будзе назваць нейкай сур'ёзнай рэформай. Хутчэй, усё стане суцэльнай імітацыяй. Новая Канстытуцыя, на маё разуменне, павінна распрацоўвацца і прымацца новым прэзідэнтам, а таксама не пры гэтым парламенце, які фактычна прызначаны Лукашэнкам, а пры тым, які выбярэ народ.

Але спачатку народ павінен перамагчы.

**СТОП-КАДР**



**У суботу тысячы жанчын ў белым выйшлі з кветкамі на вялікі марш у цэнтры Мінска.**
**Мерапрыемства было анансавана ў сацсетках як «Гранд-парад жаночых міратворчых сіл», які праводзіцца для таго, «каб нагадаць мужчынам у сілавых структурах аб тым, што кроў невінаватых з пагонаў не адмые ні адна хатняя гаспадыня».**
**На жаль, не абышлося без затрыманняў. Паводле афіцыйнай інфармацыі МУС, было затрымана 29 чалавек.**

**ЗАЯВА**

## Спыніць гвалт і беззаконне ў нашай краіне!

У нашай краіне адбываюцца драматычныя, трагічныя падзеі, прычынай якіх паслужыла кампанія па выбарах прэзідэнта. Шматлікія парушэнні выбарчага заканадаўства падчас агітацыйнай кампаніі і фальсіфікацыі пры падліку галасоў не дазваляюць лічыць, што гэтыя выбары адбыліся. Дзеянні сілавых структур пры падаўленні справядлівых пратэстаў мірных грамадзян па ўзроўні нялюдскасці і жорсткасці нагадваюць зверствы сталінскіх катаў у перыяд рэпрэсій 1930-х гадоў і фашысцкіх акупантаў у часы Другой сусветнай вайны.

Афіцыйнымі сродкамі масавай інфармацыі развязана кампанія істэрыі, нагнятання чутак пра пагрозу звонку захопу краіны, шальмаванне тых, хто настойвае на выкананні ўладамі закона і справядлівасці, выступае за еднасць нацыі. Як і ў сталінскія часы, простых людзей спрабуюць увесці ў зман, прыпісвючы лідарам пратэсту злачынствы, якіх яны не здзяйснялі. Удзельнікі мірных і законных пратэстаў падвяргаюцца ціску на працы і судовым праследам. Для арганізацыі акцый у апраўданне сфальсіфікаваных вынікаў выбараў выкарыстоўваюцца адміністрацыйны рэсурс і бюджэтныя сродкі. Галоўная адказнасць за маштабны крызіс, які разрастаецца ў Беларусі, ляжыць персанальна на Аляксандры Лукашэнку, які для захавання свайго становішча пайшоў не толькі на перавышэнне ўлады, але і ўзняў зброю на свой народ.

У мэтах стабілізацыі становішча ў краіне, аднаўлення законнасці і выканання народнага волевыяўлення мы патрабуем ад дзяржаўных органаў:

неадкладна выкарыстаць існуючы законны шлях выхаду з палітычнага крызісу, правесці паўторныя выбары ў вызначаны Канстытуцыяй тэрмін з новым складам выбарчых камісій усіх узроўняў, сфарміраваных паводле дэмакратычных прынцыпаў;

неадкладна вызваліць усіх палітзняволеных і ўсіх затрыманых падчас акцый пратэсту, спыніць рэпрэсіі ў дачыненні да мірных грамадзян, не перашкаджаць ім свабодна збірацца і выказваць сваё меркаванне;

спыніць праслед членаў Каардынацыйнай рады і стварыць умовы для агульнанацыянальнага дыялогу пад эгідай АБСЕ;

пачаць расследаванне фактаў парушэння выбарчага заканадаўства падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі і фактаў масавага гвалту і забойстваў грамадзян падчас пратэстаў супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў;

прадаставіць у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі свабодную трыбуну для прадстаўнікоў усіх пунктаў гледжання, арганізаваць дыскусію аб становішчы ў краіне з удзелам прадстаўнікоў усіх палітычных сіл;

правесці "круглы стол" аб сітуацыі у Беларусі і шляхах выхаду з крызісу з удзелам прадстаўнікоў уладных структур і грамадскасці, у тым ліку Каардынацыйнай рады.

Мы падпісваем гэту заяву індывідуальна, бо лічым, што ў такой сітуацыі кожны павінен выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю. У бліжэйшы час мы маем намер звярнуцца да сябраў нашых арганізацый з прапановай яе падтрымаць.

Заклікаем кіраўнікоў усіх іншых грамадскіх арганізацый і творчых саюзаў далучыцца да гэтай заявы. Жадаючых далучыцца просім паведамляць на адрас: **kruhlystol@gmail.com**.

*(Прынята на пасяджэнні аргкамітэта Усебеларускага "круглага стала" 27 жніўня 2020 года.)*

**Алена АНІСІМ, старшыня грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы",**

**Ігар АГУРЦОЎ, каардынатар прававой ініцыятывы "Вяршэнства закона",**

**Васіль АСТРОЎСКІ, старшыня Мінскай абласной грамадскай арганізацыі "Тварыства абароны спажыўцоў",**

**Таццяна БЯРНАЦКАЯ, кіраўнік Цэнтра вольнага часу дарослых і дзяцей "ЭкаЖыццё",**

**Алег ВОЛЧАК, старшыня ПЦ "Прававая дапамога насельніцтву" (г.Кіеў),**

**Яніна ГАНЧАРОВА, старшыня Рэспубліканскай грамадскай арганізацыі "Палата моды",**

**Сяргей ДРАЗДОЎСКІ, старшыня грамадскай арганізацыі "Офіс па правах людзей з інваліднасцю",**

**Уладзімір КОЛАС, старшыня грамадзянскай ініцыятывы "Рада беларускай інтэлігенцыі",**

**Алесь ЛОЗКА, старшыня грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай школы",**

**Алена МАКОЎСКАЯ, кіраўніца міжнароднай грамадскай арганізацыі "Задзіночанне беларусаў свету "Бацькаўшчына",**

**Сяргей МАЦКЕВІЧ, старшыня рабочай групы Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі,**

**Сяргей МІХАЛЕНКА, старшыня Беларускага грамадскага аб'яднання фатографаў,**

**Гары ПАГАНЯЙЛА, старшыня юрыдычнай камісіі грамадскага аб'яднання "Беларускі Хельсінкскі камітэт",**

**Барыс ПЯТРОВІЧ (САЧАНКА), старшыня рады грамадскай арганізацыі "Саюз беларускіх пісьменнікаў",**

**Юрась ПІСКУН, старшыня суполкі "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў,**

**Ігар РАХАНСКІ, сябра рады грамадскага аб'яднання "Беларускі камітэт Міжнароднай рады па помніках і гістарычных мясцінах "ІКАМОС",**

**Таццяна СІНІЦА, заснавальніца інфармацыйнай сацыяльна-дабрачыннай установы дапамогі дзецям з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і членам іх сем'яў "ФрыМОВА",**

**Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ, старшыня грамадскай арганізацыі "Беларускі фонд культуры",**

**Дзмітрый СУРСКІ, старшыня грамадскай арганізацыі "Беларускі Саюз дызайнераў",**

**Ніна ШЫДЛОЎСКАЯ, старшыня Рады міжнароднай грамадскай арганізацыі "Задзіночанне беларусаў свету "Бацькаўшчына",**

**Генадзь ФЕДЫНІЧ, кіраўнік Рэспубліканскага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці,**

**Таццяна ЯВОРСКАЯ, старшыня асветніцка-сацыяльнага грамадскага аб'яднання "Звяно",**

**Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра,**

**Таццяна НЯДБАЙ, намесніца старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра,**

**Уладзімір АРЛОЎ, сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра,**

**Марыя МАРТЫСЕВІЧ, сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра,**

**Сяргей ДУБАВЕЦ, сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра,**

**Андрэй ХАДАНОВІЧ, сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра.**

САЛІДАРНАСЦЬ



## Падтрымку беларусам выказала папулярная інстаграм-мадэль і блогер-мільённік Наталля Фёдарава:

*– Наш народ згуртаваўся дзеля перамен для лепшага сваёй краіны. Хто-небудзь чакаў такіх падзей? Адназначна не. Не толькі наш народ – увесь свет. Але мы зрабілі гэта, мы стаміліся маўчаць і цярпець абразы! Мы не народзец, мы адзіны, мірны і свабодны беларускі народ! – напісала прыгажуня на сваёй старонцы ў "Інстаграме".*

МОСКВА–МИНСК

# Путин вписался…

На днях Владимир Путин в интервью телеканалу «Россия» впервые четко высказался относительно белорусского политического кризиса. Если коротко, то он вписался за Лукашенко. Даже готов помочь ему силой. Это последнего несомненно вдохновляет. При такой мощной поддержке подавлять бунт куда сподручней. И вертикаль, и силовики приободрятся: Москва с нами!

Наибольший резонанс вызвало заявление российского президента о том, что он по просьбе Лукашенко сформировал *«определенный резерв из сотрудников правоохранительных органов»*. Проще говоря, Москва готова бросить на подмогу своих «космонавтов», если Лукашенко не хватит собственных.

### Кремль якобы не слышал о зверствах силовиков и тоже кивает на Запад

Путин также дал понять, что Лукашенко прощен за историю с 33 задержанными вагнеровцами, списал это на происки украинских и американских спецслужб.

Российский президент заявил, что на процессы в Беларуси хотят влиять извне (по контексту – с Запада) ради определенных политических интересов, и отметил, что *«правоохранительные органы Беларуси ведут себя достаточно сдержанно, несмотря ни на что»*.

То есть пули против собственных граждан – это как бы еще сдержанная реакция. Ну правда же, огнеметов не было, только водометы. О зверствах силовиков, о том, как пытали, превращали в мясо задержанных на протестах после выборов 9 августа, российский руководитель якобы не знает. Зато по ходу вспомнил о свежем случае насилия полицейских над афроамериканцем в США. Классика жанра: а у них там чернокожих линчуют!

Также российский руководитель, как видим, поддерживает, пусть и в редуцированных формулировках, версию Лукашенко о неких западных кукловодах.

И еще: Путин согласился с тем, что недопустимо создавать не предусмотренные конституционные органы. А это уже камень в огород Координационного совета (КС), созданного по инициативе Светланы Тихановской. То есть Кремль поддержал давление на эту структуру, возбуждение уголовного дела по факту ее создания.

Надо ли говорить, насколько это крепит боевой дух Лукашенко (помните кадр с автоматом?), и так уже разворачивающего контрнаступление?

### Новая Конституция: попытка подменить злобу дня

Правда, Путин оговорился: *«Конечно, если люди вышли на улицу, все должны с этим считаться, слышать это, реагировать»*. И напомнил в этой связи, что его белорусский коллега *«готов рассмотреть возможность проведения конституционной реформы»*, а потом уже провести выборы по новому Основному закону.

Очевидно, что это согласованная линия. Лукашенко на совещании в Минске тоже повел разговор в этом ключе, впервые высказался за некий диалог. Но, естественно, на своих условиях: *«С улицей никто из властей за стол переговоров не сядет»*. Он готов говорить с трудовыми и студенческими коллективами. Плюс *«вменяемые люди от оппозиции»*.

КС, который сразу обвинили в намерении захватить власть и прижали уголовкой, Лукашенко, надо понимать, к вменяемым не относит. Хотя в этой структуре никакие не радикалы. Совет же, обратите внимание, создан по инициативе главной соперницы действующего президента на минувших выборах. Таким образом, с ее сторонниками бессменный и пока несменяемый президент разговаривать не хочет.

Но ведь это миллионы граждан, возможно, большая часть населения. Вся нынешняя буча из-за того, что эти люди убеждены: их голоса украли, де-факто победила Тихановская.

И если позицию этих людей, их представительство исключить из диалога, то с кем и о чем тогда говорить?

То есть речь идет о бутафорском диалоге с тщательно отфильтрованными представителями соответствующих коллективов (чтобы не кричали «Уходи!», как это было на МЗКТ) и толикой ручных якобы оппозиционеров (желающих выступить на подтанцовке найти нетрудно).

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**
*(Naviny.by)*

ПО ВАШЕЙ ПРОСЬБЕ

*Добрый день, уважаемая редакция газеты «Народная Воля»!*

*Прошу вас опубликовать мое обращение к Министру внутренних дел Республики Беларусь Ю.Х.Караеву.*

**В.ГОВОРУШКИНА.**

# ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО
## министру внутренних дел Ю.Х.Караеву

Юрий Хаджимуратович Караев!

Я, Говорушкина Вероника Сергеевна, гражданка Республики Беларусь, член расширенного состава Координационного совета, обращаюсь к Вам как к Министру внутренних дел Республики Беларусь и офицеру.

На сегодняшний день Вы являетесь единственным представителем государственной власти, прямо признавшим чрезмерное применение силы сотрудниками специального подразделения ОМОН и других силовых структур Республики Беларусь.

13 августа 2020 года в программе «Ничего личного» телеканала ОНТ на вопрос ведущего «Признаете ли Вы, что иногда сила была применена «не по адресу»?», Вы ответили: «К сожалению». Я увидела боль в ваших глазах, и я верю в ваше сожаление.

16 августа 2020 года на митинге в поддержку первого президента Республики Беларусь Вы дали интервью журналисту новостного портала TUT.BY, высказавшись насчет требований о своей отставке или лишении себя жизни как о недопустимых ввиду возможной деморализации личного состава – и я верю в искренность Вашей заботы о подчиненных Вам сотрудниках.

21 августа 2020 года вы встретились с архиепископом Римской Католической Церкви Тадеушем Кондрусевичем, которому сказали, что глубоко переживаете все произошедшее, а также заявили, что *«каких-то команд на жестокое обращение с людьми что на улицах, что по пути конвоирования, а тем более в местах содержания»* Вы не давали. И я верю, что Вы не давали таких команд, потому что режим никогда не совершает главное зло «своими руками».

Юрий Хаджимуратович, Вы являетесь единственным человеком в Республике Беларусь, взявшим на себя ответственность за произошедшее 9–12 августа 2020 года. Ни Верховный главнокомандующий Республики Беларусь, ни руководители иных силовых ведомств, к сожалению, не показали подобной Вам смелости. Вы также являетесь единственным представителем власти, проявившим искреннюю заинтересованность в общественном диалоге.

Я считаю Вас умным, честным и образованным человеком.

«Наша Нива» писала о том, что Ваши любимые авторы – Толстой, Достоевский, Куприн, а также о том, что Вы искренне стремитесь воспитать солдат достойными гражданами нашего государства. Ваши цитаты:

*«Доводим до ума все знания по истории и географии Беларуси: области, города, столицы Великого Княжества Литовского – в какие времена где что было. Если школа допустила пробелы в изучении истории, то мы их исправляем. Ведь без знания истории своей страны идеологии и патриотизма быть не может, собственно».*

*«Всегда объясняем, что мы – это защита граждан, а не карающий меч революции, как это раньше об органах ВЧК-НКВД говорили».*

«Белорусский партизан» писал, что в милицейских кругах Вас называют *«очень порядочным человеком и офицером»*. Я могу разделить это мнение.

Когда несколько лет назад в ТЦ «Новая Европа» от рук «парня с бензопилой» погибла Елена Александронец, Вы единственный из представителей белорусской власти пришли на прощание с ней.

Вы отменили обязательную проверку всех сотрудников на полиграфе.

При Вас в белорусском спецназе впервые появились женщины.

Я приношу свои извинения за всю безальтернативность моих предыдущих суждений о Вас. Сейчас я не считаю Вас преступником (пока не будет доказано иное).

Я прошу Вас инициировать процесс создания государственной структуры, способной вступить в диалог с представителями оппозиции (для власти) и большинства (для народа). Я прошу Вас войти и (возможно) возглавить ее состав.

Я прошу Вас инициировать процесс расследования всех фактов пыток и иного жестокого, бесчеловечного и унижающего достоинство обращения. Я прошу Вас выступить гарантом полноты и всесторонности таких расследований.

Я прошу Вас защитить перечисленными выше действиями белорусский народ, свое доброе имя и офицерскую честь.

Я свидетельствую, что настоящее письмо было написано мной 29 августа 2020 года по собственной инициативе и выражает исключительно мое мнение. Я свидетельствую, что данное письмо было написано мной на безвозмездной основе. Я прошу Вас защитить меня от возможных негативных последствий данного письма Вам и опубликования его в открытых источниках информации. Я верю в Вас, господин офицер.

**Вера Сергеевна ГОВОРУШКИНА, гражданка Республики Беларусь.**

СЛОВА ЭКСПЕРТУ

# Перакідванне F-16 да межаў Беларусі – планавыя рэгулярныя вучэнні NATO

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што NATO перакінула 18 амерыканскіх самалётаў F-16 з-пад Берліна да мяжы з Беларуссю. Лукашэнка сказаў, што ў адказ на гэты манеўр ён прывёў войскі ў баявую гатоўнасць. Каменціруючы сітуацыю, ваенны эксперт **Аляксандр Алесін** патлумачыў, у чым сэнс гэтай перадыслакацыі авіяцыі NATO.

– Гэтыя самалёты перакінулі на аэрадромы ў Польшчы. Гэта дастаткова часта адбываецца ў межах планавых вучэнняў, калі іх перакідваюць на перадавыя аэрадромы. Польскія аэрадромы лічацца перадавымі, скарачаецца падлётны час да патэнцыяльнага праціўніка. Гэта ідзе дзяжурная адпрацоўка. І мы так робім, і расіяне. Калі ідуць вучэнні, практыкуюцца ў рэальных сітуацыях умацаванні на пэўным кірунку.

Цяпер у Польшчы ўвесь час ідуць вучэнні, прынамсі, да нядаўняга часу яны ішлі на некалькіх палігонах.

Я не сказаў бы, што гэта нешта экстраардынарнае. Раней мы глядзелі на гэта даволі зычліва: планавыя вучэнні дык планавыя, і нашы Міністэрства абароны і МЗС казалі, што мы іх не баімся.

Але цяпер ёсць каманда баяцца. Маўляў, Захад праяўляе сваю звярыную сутнасць, і мы не можам яму гэтага дазволіць. У прынцыпе, гэта нармальная сітуацыя, калі для згуртавання ўнутры краіны папярэджваюць замежнага ворага, што мы яму нанясём сакрушальны ўдар.

**– А наколькі часта адбываюцца такія перадыслакацыі? Наколькі я разумею, 18 самалётаў – гэта даволі шмат.**

– Бывае і больш. Гэта эскадрылля. Адбываецца гэта даволі часта. Адпрацоўваюць аперацыі супраць патэнцыяльнай агрэсіі Расіі. На вучэннях разгортваюць сухаземныя сілы, а авіяцыя іх прыкрывае з паветра. Здаецца, гэта адбываецца ледзь не штогод. Калі не з Нямеччыны, дык з Італіі, з базы ў Авіяна.

БЕЗ РЕТУШИ

# Белорусская власть пошла вразнос

С каждым сюжетом пропаганды и с каждым новым заявлением, не имеющим под собой ничего, кроме пропаганды, структуры власти Беларуси все больше и больше теряют доверие своих граждан. До логического конца осталось совсем ничего.

Беларусь живет под гнетом государственной пропаганды уже не одно десятилетие, даже если не учитывать советское время. И, надо признать, она работала: грамотно обрабатывала умы своих граждан и давала нужный для власти результат. Но сейчас все происходит с точностью до наоборот. Едва ли не каждый пропагандистский ход властей работает против них же.

Понятно, что белорусские власти действуют сейчас в соответствии с известным постулатом Геббельса – главного пропагандиста Гитлера: «Чем чудовищнее ложь, тем охотнее в нее поверят». Поэтому и появляются сюжеты с некими свидетелями, которым якобы заплатили за выход на протесты. Официальные данные МВД, что на провластный митинг пришло 65 тысяч человек, а на оппозиционный – в три раза меньше. Заявления Лукашенко и других представителей власти про наркоманов, пьяниц, безработных, проституток и прочих, кто ходит на акции протеста. И неважно, что миллионы людей точно знают, что это ложь. Власть, похоже, уже просто не может остановиться и фактически хоронит под этой ложью свою последнюю надежду на спасение, забыв, что пропаганда утрачивает свою силу, когда становится явной. Можно сказать даже больше: в век информационных технологий, если пропаганда становиться слишком уж явной, она не просто утрачивает свою силу, а начинает работать в обратном направлении.

Какой смысл показывать трусливые свидетельства омоновца, скрывающего не только свое лицо, но и имя, когда с противоположной стороны совершенно открытый человек с официальными документами, доказывающими, что он не был ни в алкогольном, ни в наркотическом опьянении? Какова цена после этого слов Александра Лукашенко, что на протесты выходят, пьяницы, наркоманы, проститутки и безработные?

Зачем бывшему министру здравоохранения говорить, что избитый и находящейся в коме 16-летний парень просто отравился психотропами, когда официальные документы медучреждения это опровергают? Ведь у белорусских врачей совесть еще есть – в отличие от тех, кто выслужился до высоких должностей.

А как можно понимать заявления так называемых экспертов (в основном зарубежных), которых сейчас в массовом порядке привлекает Белорусское телевидение? В последнем таком интервью телевизионная пропагандистка спросила, каковы будут следующие действия организаторов массовых протестов в Беларуси. «Эксперт» на голубом глазу ответил, что следующие действия, согласно сценарию, – это создание из властей некоего монстра, который избивает и калечит свой народ. И сказано это было после двух недель протестов, вызванных именно избиениями, пытками и убийствами.

Люди уже просто смеются над такими потугами, превращая действующую власть из некоего страшного монстра в посмешище. А если над властью начинают смеяться миллионы – ей уже не выжить. Протестующие больше не ограничиваются плакатами, высмеивающими пропагандистскую чушь, а делают ее чуть ли не символом протеста. На воскресном шествии один из участников устроил настоящую перекличку, над которой смеялся весь народ.

– Так, наркоманы здесь?

– Здесь!!! – громогласно ответила многотысячная толпа.

– Алкоголики здесь?

– Здесь!!!– скандировала толпа.

– Безработные здесь?

– Здесь! – отвечали люди.

– Проститутки здесь?

– Здесь! – ответили на этот раз лишь женщины, после чего сквозь все шествие волной прокатилась громогласная волна хохота.

И уж совсем нелепым перлом пропаганды стал сюжет о том, как Александр Лукашенко вышел с автоматом на уже опустевшую улицу и крикнул в спину гордо ушедшему народу: «Я с ними еще разберусь!» Сюжет довольно классический и отчетливо демонстрирующий, кто есть кто.

За последние дни мы стали свидетелями того, как подобного рода пропаганда работает против самих же властей. Ведь с каждым таким сюжетом и заявлением власть неизменно теряет самых ценных своих сторонников, даже среди тех же пропагандистов. Такого еще не было. Последние слова Александра Григорьевича о том, что ветераны оказались самыми стойкими в эти нелегкие времена, являются свидетельством не только самого масштабного кризиса белорусской власти, вызванного именно бездарной пропагандой, но и самого быстрорастущего. Ведь и до ветеранов тем или иным путем начинает доходить правда.

Понятно, что люди были возмущены бесчинствами силовиков в отношении мирных граждан и слишком уж очевидными фактами фальсификации итогов выборов. Но если бы пропагандистская машина не пошла тупо напролом, отрицая очевидные для абсолютного большинства факты, для действующей власти все могло бы закончиться относительно благополучно. Ей всего лишь и нужно было, что сдержанно признать очевидное и дать соответствующие обещания. А сейчас уже и это не поможет. Поздно. Заявлением Генпрокуратуры о создании некоей комиссии по проверке заявлений о применении насилия никого больше не обманешь. Если Александр Лукашенко не только похвалил, но и наградил силовиков за их действия, если он уже дал свою оценку всему произошедшему, то какой прокурор осмелиться его опровергнуть? А если кто-то и осмелится, то тут же станет «подкупленным наймитом, переметнувшимся на сторону врага». Смешно сказать, но, несмотря на всенародное возмущение, ни прокуратура, ни Следственный комитет до сих пор не дали правовой оценки произошедшему. Зато уголовные дела в отношении тех, кто возмущен убийствами, избиениями и пытками, кто пытается сказать правду, возбуждают мгновенно. И люди все это видят.

Ситуация в стране доведена до абсурда. Даже если завтра на акцию протеста выйдут всего 100 человек и пропаганда озвучит реальную цифру, никто этому просто не поверит.

Белорусская власть напоминает сегодня ушедший вразнос двигатель: бешенные обороты пропаганды значительно выше предельно допустимых, жуткий рев и скрежет, и еще много дыма, который отравляет все вокруг. Это зрелище пугает. Власть вроде и пытаешься скинуть обороты, но они все больше нарастают. Конец тут один – очень скоро двигатель просто разлетится вдребезги, покажет кулак, как говорят мотористы. После этого его уже не восстановишь. Только замена.

**Сергей САЦУК.**
*(Ej)*

ПОЗИЦИЯ

# Тихановская рассказала, как сместить Лукашенко и почему ему не поможет Путин

Лидер белорусской оппозиции Светлана Тихановская поделилась своими мыслями о том, как заставить Александра Лукашенко покинуть пост президента. По ее мнению, это в силах простых людей из рабочего класса, процитировало экс-кандидата в президенты информагентство «УНИАН» 28 августа.

Тихановская называет себя символом изменений и национальным лидером Беларуси, понимая, какую высокую ответственность она при этом на себя взяла.

*«Один из белорусских дипломатов, который ушел с поста, сказал, что, по его мнению, сместить Лукашенко могут те, кто его привел на эту должность, – это рабочие крупных предприятий, рабочий класс, хребет белорусской промышленности, селянство, то есть люди из народа, не силовики. Я сейчас вижу забастовочные комитеты. Я думаю, что только длительные забастовки (хотя не хотелось бы, чтобы они были длительными, потому что это наносит удар по экономике) могут заставить Лукашенко уйти»*, – сказала она.

Прокомментировала оппозиционер и заявление президента РФ Владимира Путина о том, что Россия имеет перед Беларусью обязательства по военной помощи. Тихановская сказала, что оказать ее просто не получится, потому что оппозиция протестует мирно и поводов не даст. При этом ситуацию в Беларуси она назвала «внутренней проблемой» страны.

А ЦІ ВЕДАЛІ ВЫ?



# Зязюля шэрая мая

Пра грыбы і ягады я, заходзячы ў лес, у адзін момант забываўся. Задзіраў галаву ў неба і пытаўся: "Зязюля-зязюля, колькі гадоў мне жыць засталося?" Вачыма ўпарта шукаў я сярод галінак дрэў тую загадкавую птушку, якая, не шкадуючы сіл, лічыла мне гады далейшага жыцця. Ой, як хацелася яе ўбачыць! А яна раптам змаўкала, і яе трапяткое "ку-ку" праз хвілінку даносілася ўжо зусім з іншага месца. Відаць, хтосьці яшчэ пажадаў даведацца пра свой лёс. Тое было ў далёкім дзяцінстве, але ў душу запала назаўсёды.

…На далёкай, схаванай сярод забайкальскіх сопак станцыі Даурыя, дзе прайшоў першы год маёй службы ў ракетных войсках, у гарнізоннай бібліятэцы трапілася мне на вочы прыгожа ілюстраваная кніга "Птицы наших лесов". Пагартаў і панёс у казарму для капітальнага знаёмства. Вось тут у кароткія хвіліны зацішша і захапіўся я цікавымі звесткамі пра сваю даўнюю знаёмую – зязюлю. Нават некалькі лісткоў з агульнага сшытка запоўніў дробненькім шрыфтам патрэбнымі, на мой погляд, нататкамі. Цяпер жа гэта зацікаўленасць перарасла ў сапраўдную душэўную патрэбу. Усё, што датычыцца зазюлі, чытаю, запамінаю, запісваю.

Неяк надоечы, перабіраючы на лецішчы свае даўнія запісы, наткнуўся на сшытак з нататкамі пра зязюлю, пералапаціў нанава і падумаў: мабыць, усё гэта можа аказацца цікавым не толькі мне аднаму, а і шматлікім нераўнадушным аматарам жывой прыроды роднага краю.

Аб тым, што зязюля – гнездавы паразіт, ведаюць амаль усе, таму што ніводнаму з відаў птушынага царства даследчыкі не надаюць столькі зацікаўленай увагі. Зязюля не будуе асабістых гнёздаў, не наседжвае самастойна яечак, не выкормлівае сваіх птушанят і зусім не клапоціцца пра іх лёс пасля вылету з гнязда ў самастойнае жыццё. Усе гэтыя клопаты яна перакладае на іншых птушак, падкідваючы свае яечкі ў чужыя гнёзды.

Да сённяшняга дня не знайшоў ніякіх звестак аб тым, якім чынам зязюля дамагаецца такога эфекту, каб яечкі яе былі такімі падобнымі па колеры да кладкі тых птушак, у гнёзды якіх яна адкладвае свае нечаканыя "падарункі". У гняздзе гарыхвосткі, напрыклад, зязюльчына яйка бывае блакітным, хаця памерам трошкі большае. У чарацянкі – блакітнаватае з крапінкамі, у лугавога канюка – амаль карычневае, стракатае, у аўсянкі – белае з карычневымі разводамі. Дзе ж тут прыёмным бацькам адрозніць сваё ад чужога!

Каб стварыць камфортныя ўмовы для будучага дзіцяці, зязюля з выбранай ёю чужой кладкі выкрадае і з'ядае адно альбо некалькі яечак. Тут табе і сняданак, і свабоднае месца для нашчадка. Але ж варта зазначыць, што асноўны від харчавання гэтых агрэсіўных птушак – насякомыя, у першую чаргу валасатыя вусені, да якіх іншыя птахі падступіцца не могуць. Не адкінуць зязюлі пры выпадку і мышанят, малых птушанят. Так што і карысць ад іх калі-нікалі, і шкода. Прырода – нічога не папішаш!

Я ўвесь час лічыў, што зязюля – птушка адносна буйная, а яна, аказваецца, сярэдніх памераў ды і важыць дзесьці ўсяго каля ста грамаў. У дарослых самцоў спінка і хвосцік цёмна-шэрыя, а горла, валлё і грудка – светлыя. Астатняя частка апярэння таксама святлейшая, але з цёмнай папярэчнай паласатасцю. Вочы і нават беражкі вейкаў жоўтыя, прыгожыя. Самкі ж па колеры буравата-тыя альбо іржава-рудыя. Дзюбкі ў абодвух асобін цёмныя, трошкі загнутыя ўніз. Па ўсім свеце зязюлін род распаўсюджаны даволі шырока, і селяцца гэтыя птушкі ў самых нечаканых асяроддзях.

Па знешнім выглядзе і афарбоўцы зязюля нагадвае каршуна-перапёлачніка, таму мірныя птахі па-сапраўднаму баяцца яе. А самачцы толькі гэтага і трэба: у апусцелае ненадоўга гняздо паразітка тут жа адкладвае сваё яйка. Прычым на гэту "падлянку" ёй патрабуецца ўсяго каля васьмі секунд. Чэмпіёнка!

Каб знайсці месца для адкладкі яечак, самка зязюлі доўга лётае па лесе, зазірае ў гнёзды, завісае на імі, трапечацца, выклікаючы сапраўдны пярэпалах у гаспадароў. Часам яна адсочвае паводзіны гнездавых птушак з "назіральнай вышкі". Думаючы, што гэта каршун, птушыная драбната раптоўна ўзнімаецца і дружна атакуе ворага. А ён што – рэціруецца ці адбіваецца? Не чакайце! Птушкі дзяўбуць нахабніцу, садзяцца ёй на карак, а яна сядзіць сабе нерухома, разяўляе дзюбу, пужае зграю крыкамі альбо скідае асабліва смелых з уласных плячэй. Гэтыя цярплівасць і адсутнасць адказу паволі надакучваюць драбнаце, і атака на зязюлю спыняецца.

На падкладзенае таемна яечка розныя віды птушак рэагуюць па-рознаму. Адны выкідваюць яго, а іншыя са страху нават гнёзды свае пакідаюць. Але ж большасць бедачын не заўважае прыкрытага нахабства і працягвае выседжваць кладку. Вось тут і паказвае зязюлін нашчадак сваю агрэсіўнасць. На другі-трэці дзень пасля з'яўлення на свет нованароджаны шырока расстаўляе ногі, упіраецца галавой у дно гнязда, падлазіць пад яйка ці ўжо пад птушаня, якое вылупілася, і закочвае іх на сваю спіну. Потым выпроствае ногі і рэзкім штуршком выкідвае "кладзь" за борт гнязда. Нярэдка пасля гэтага ён застаецца адзін, шырока разявае дзюбу і патрабуе харчу.

Актыўнасць прыёмных бацькоў пры выкормліванні дармаеда такая ж, як у дачыненні да астатняга вывадка, калі ён па шчаслівым выпадку не аказаўся за бортам. На 14-ы дзень вага птушаняці звычайнай зязюлі павялічваецца ледзь не ў трыццаць разоў, і ён робіцца па памерах большым за, напрыклад, дарослую чарацянку. Суседзі яго вылятаюць у самастойнае жыццё, а гэты паразіт яшчэ больш за дваццаць дзён атрымлівае харчаванне ад прыёмных бацькоў. Такім чынам перыяд выхавання зязюлінага падкідыша павялічваецца больш як у два разы ў параўнанні з тым часам, які затрачваецца выхавацелямі на сваіх родных птушанят.

Але ўсяму прыходзіць канец. У зязюль таксама пачынаецца падрыхтоўка да міграцыі ў Паўднёвую Афрыку. У сярэдзіне верасня іх звонкага "ку-ку" мы ўжо не пачуем. Затое прылятаюць з выраю гэтыя птушкі ўжо ў другой палове красавіка. Першымі прыбываюць самцы-аксакалы, затым маладыя выхаванцы, можа, іх дзеці. Прыглядаюцца, прыслухоўваюцца да лясной абстаноўкі і толькі пасля гэтага пачынаюць кукаваць, абазначаючы тым самым сваю незалежнасць на абранай тэрыторыі. Заўважце: самкі зязюль кукаваць не ўмеюць. Прываблены песнямі кавалераў, яны выдаюць гучную трэль альбо нейкі глухаваты крык, падобны на рогат. У час размнажэння зязюлі трымаюцца вызначанай тэрыторыі, прычым у самцоў яна некалькі шырэйшая, чым у самак.

Арэал распаўсюджвання гэтых птушыных паразітаў даволі шырокі – ад еўраазіяцкай часткі планеты да стэпаў, пустынь, высакагорных мясцін і таежных прастораў. Знайсці свой прытулак яны могуць на берагах вадаёмаў, акраінах населеных пунктаў, у парках і садах. На маёй дачы некалькі гадоў запар шэрая жаўтаватая прыгажуня мірна ўжывалася з сарокамі, што вілі гнёзды на суседнім участку ў густым ліпняку. Цяпер я ўжо гады два не чую ні стракатання даўгахвостых разносчыц навін, ні абрыдлага кукавання зязюль ні свет ні зара. Кажуць, нейкі прышлы руды кацяра некалькі разоў добра пашкуматаў сарочыны гнёзды, паласаваўся сарачанятамі. Ніхто цяпер не турбуе мяне зранку. Пенсіянеру патрэбны спакойны адпачынак.

Вось, здаецца, і ўсё самае адметнае, што я знайшоў надоечы ў сваім творчым архіве. Шчыры дзякуй знакамітым арнітолагам і аматарам птушак за цудоўныя звесткі пра зязюль. А самой галасістай птушцы – нізкі паклон за даўгалецце, якое накукавала яна мне ў далёкія гады шчаслівага дзяцінства.

**Міхась ЗНАК,**
**член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

ДУХОЎНАЕ

Уладзімір ЛІПСКІ

## «Памілуй і ўзвысь» Малітвы.

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 53-68.)*




**33** | **Бо дзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша.**

*Святое Евангелле паводле Мацвея, 6: 21*

У імя Айца,
і Сына,
і Святога Духа
цяпер,
і на заўтрашні дзень,
і на ўвесь свой век
прашу маё сэрца:
не пусці ў сябе
славалюбства,
яно, як іржа, з'ядае цябе;
служы
ўзвышанай мары,
тады будзеш заўжды жывым;
захавай
пачуццё любові,
тады я буду чалавек, а не істота;
рабі
столькі дабра ворагу,
каб растапілася яго сэрца;
не дай
мне спакою,
хай твае чыстыя сасуды
служаць дзецям,
Божым пасланнікам на зямлі.
Падмажы,
маё сэрца,
адшукаць духоўны скарб
на гэтым свеце,
а я буду заўжды з табой —
у справах,
у слове,
у малітвах.

*Амін.*



КРЫЖАВАНКА

## «Зялёны ліст, чырвоны цвет!»

*Да 120-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Дубоўкі*



**Па гарызанталі:** 1.Горад на Віцебшчыне, недалёка ад якога ў вёсцы Агароднікі 120 гадоў таму, 15 ліпеня 1900 года, нарадзіўся адзін з заснавальнікаў беларускай нацыянальнай літаратуры, паэт, празаік, мовазнаўца, перакладчык Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка. 4."…", "Узвышша" – літаратурныя аб'яднанні ў Беларусі ў 20–30-х гадах мінулага стагоддзя, актыўным сябрам якіх быў Ул.Дубоўка. 9."За ўсе … , за ўсе народы свету" – верш Ул.Дубоўкі, за які ў 1930 годзе паэт быў арыштаваны і правёў у высылцы і сталінскіх лагерах больш за 25 гадоў. 10.Некалькі падвод, якія ідуць адна за адной. 11.Творчы метад, прасякнуты аптымізмам; такія амаль усе творы Ул.Дубоўкі. 13.Мінерал. 15.Прыйшоў Пятрок (12 ліпеня), … дня ўвалок (прык.). 16.Ярка-чырвоная фарба. 17."О Беларусь, мая шыпшына, // зялёны … , чырвоны цвет!" – з верша Дубоўкі "О Беларусь, мая шыпшына". 18."Родная … , цудоўная …! // Ты нашых думак уток і аснова" – з верша паэта "Родная мова". 21."Самы чысты мёд на сталы – … ліпеня" – з верша Е.Лось "… ліпеня". 23.Вершаваная двухскладовая стапа. 25."Як на свята, на Купалле, // ад паўночы да світання // кветку шчасця ў нас шукалі" – з верша Ул.Дубоўкі "… шчасця". 27.Мастацкі прыём перабольшвання. 29."Усё лятуць і лятуць тыя …" – з верша "Пагоня" М.Багдановіча, памяці якога Ул.Дубоўка прысвяціў верш "Нават мора змяніла свой колер"; са зборнікам вершаў М.Багдановіча "Вянок" Ул.Дубоўка не разлучаўся ўсё сваё жыццё. 30."Магчыма, другія паходню нясуць, // што … наш да шчасця асвеціць" – з верша паэта "Магчыма, другія паходню нясуць". 31.Кніга апавяданняў-успамінаў Ул.Дубоўкі аб перажытым ім у змрочныя часы зняволення. 32.Замарынаваныя прадукты.

**Па вертыкалі:** 1.Вялікі … – імя, наданае Ул.Дубоўку сучаснікамі за яго амаль палову жыцця, праведзенага ў зняволенні. 2.Народнае эпічнае апавяданне. 3.Тое, што і адростак. 5.Ільдзінка. 6. … здаецца высокім – да ветру (прыкм.). 7.Складальнік казак; ім быў Ул.Дубоўка, аўтар казак "Мілавіца", "Кветкі – сонцавы дзеткі", "Залатыя зярняты". 8."… Беларусі" – першы верш Ул.Дубоўкі, які надрукавала газета "Савецкая Беларусь" у 1921 годзе; першы паэтычны зборнік паэта "Строма" выйшаў у Вільні ў 1923 годзе. 12.Ліпеньскае … – для пчол раздолле (прык.). 14."Палеская …" – кніга паэзіі, за якую паэт быў узнагароджаны ў 1962 годзе літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы. 19.Астранамічны прыбор. 20.Пасыльны, ганец (састар.). 22.Мінерал, адзін з відаў азбесту. 24.Імя жонкі Ул.Дубоўкі, якая разам з паэтам зведала ўсе жахі сталінскіх лагераў. 25.Лісцевае дрэва, якое часта ўпамінаецца ў купальскіх і калядных песнях. 16.Ласкавы зварот да каго-небудзь (разм., састар.). 28.Любімае лісцевае дрэва Ул.Дубоўкі, апетае паэтам у многіх яго вершах.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Паставы. 4."Маладняк". 9.Краі. 10.Абоз. 11.Рамантызм. 13.Нефрыт. 15.Час. 16.Кармін. 17.Ліст. 18.Мова. 21.Лірыка. 23.Ямб. 25.Кветка. 27.Гіпербала. 29.Коні. 30.Шлях. 31."Пялёсткі". 32.Марынад.

**Па вертыкалі:** 1.Пакутнік. 2.Сказ. 3.Вырост. 5Лядзяк. 6.Неба. 7.Казачнік. 8.Сонца. 12.Прыволле. 14.Рапсодыя. 19.Тэлескоп. 20.Скараход. 22.Аміянт. 24.Марыя. 25.Каліна. 26.Анёл. 28.Клён.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**
**г.Дзяржынск.**

**БЕЛСАТ. ПРАГРАМА ПЕРАДАЧ ПРЫКЛАДНАЯ. ЗМЕНЫ МОГУЦЬ АДБЫВАЦЦА ШТОДНЯ З НЕЗАЛЕЖНЫХ АД «БЕЛСАТ TV» ПРЫЧЫН.**

**ПАНЯДЗЕЛАК, 31 жніўня**
**07.00, 21.00** "Аб'ектыў".
**07.15** "Над Нёмнам".
**07.35, 14.15, 17.10, 21.25** "Студыя "Белсат".
**13.40** "Аўтастопам па Беларусі".
**14.05, 17.00** "Гісторыя пад знакам Пагоні".
**18.55** "Мова нанова".
**19.40** "Загадкі беларускай гісторыі".
**20.00** "Інфармацыйна-публіцыстычны блок".

**АЎТОРАК, 1 верасня**
**07.00, 09.25, 16.15, 19.05, 20.00, 21.40, 01.35** "Студыя "Белсат".
**08.00, 14.45, 21.00, 00.35** "Аб'ектыў".
**08.20, 15.10, 21.20, 00.50** "Размова дня".
**08.45, 15.35** "Загадкі беларускай гісторыі".
**09.00, 15.50** "Асабісты капітал".
**18.45, 01.10** "Над Нёмнам".
**19.30** "Вось так".

**СЕРАДА, 2 верасня**
**07.00, 09.00, 15.40, 20.00, 21.40, 01.20** "Студыя "Белсат".
**07.55, 14.35, 21.00, 00.35** "Аб'ектыў".
**08.20, 15.00, 21.20, 00.55** "Размова дня".
**08.45, 15.25** "Над Нёмнам".
**19.30** "Вось так".
**01.45** "Маю права".

**ЧАЦВЕР, 3 верасня**
**07.00, 08.45, 13.35, 15.35, 17.00, 20.00, 22.20, 01.00** "Студыя "Белсат".
**07.55, 14.50, 21.00, 00.15** "Аб'ектыў".
**08.20, 15.15, 21.20, 00.35** "Размова дня".
**13.15** "Мова нанова".
**16.40** "Маю права".
**19.30** "Вось так".
**21.40, 01.20** "ПраСвет".

**ПЯТНІЦА, 4 верасня**
**07.00, 09.15, 11.10, 12.55, 16.00, 20.00, 21.20** "Студыя "Белсат".
**07.55, 14.45, 21.00, 01.05** "Аб'ектыў".
**08.15, 15.05** "Размова дня".
**08.40** "ПраСвет".
**10.50** "Мова нанова".
**12.35** "Асабісты капітал".
**15.25** "ПраСвет".
**19.05, 01.25** "Маю права".
**19.30** "Вось так".

**СУБОТА, 5 верасня**
**07.00, 08.45, 11.20, 13.00, 21.15, 00.05** "Студыя "Белсат".
**07.55, 21.00, 23.50** "Аб'ектыў".
**08.20** "Маю права".
**11.05** "Загадкі беларускай гісторыі".
**12.20** "Над Нёмнам".
**12.35** "Маю права".
**21.35** "Кінаклуб".

**НЯДЗЕЛЯ, 6 верасня**
**07.00, 21.00, 23.40** "Аб'ектыў".
**07.15** "ПраСвет".
**07.55, 10.50, 12.45, 21.15, 23.55** "Студыя "Белсат".
**10.25** "Маю права".
**12.25** "Асабісты капітал".
**15.05** "Гісторыя пад знакам Пагоні".
**15.20** "Кінаклуб".
**20.05** "Мова нанова".
**20.30** "Эксперт".

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
**Падпісныя індэксы:**
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

**Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

Пакольку ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Падпісана ў друк 30.08.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 040 экз. Заказ № 2510.